Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

Цана па падпісцы — 3000 руб.
Цана ў розніцу — 5000 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ

6—12 сакавіка 1999 года
№ 10 (168)
Наш індэкс 63834

## 8 САКАВІКА — ДЗЕНЬ ЖАНЧЫН. СА СВЯТАМ!

### Паэтэса Ніна Мацяш

Ёсць людзі, ад сустрэчы з якімі так лёгка на сэрцы. Здаецца, што нейкая невядомая сіла перадалася табе, акрыліла, дадала ўпэўненасці. Такім уяўляеш сябе пасля сустрэчы і размовы з вядомай беларускай паэтэсай Нінай Мацяш, што жыве ў Белаазёрску.

Дабрадушны позірк, прыемная ўсмешка, лагодная і мілагучная мова паэткі адразу ж заварожваюць суразмоўцу. Хочацца слухаць і гаварыць з ёю. А цікавіцца Ніна Мацяш літаральна ўсім, але, бадай, больш за ўсё яе хвалюе наша, беларуская літаратура, яе сённяшні стан і развіццё. Паэтку радуе, што ў літаратуру ідзе таленавітае маладое папаўненне. Яна па-ранейшаму поўная творчых планаў і задумак. Сёлета ў выдавецтве выйдзе кніжка паэзіі Ніны Мацяш "Душою з небам гаварыць". У яе ўвайшлі лепшыя вершы апошніх гадоў. А ў выдавецтве "Юнацтва" на чарзе паэтычная кніжка для дзяцей пад назвай "Адведзіны лета". Гэта вершы аб прыродзе, яе насельніках.

Займаецца наша зямлячка і перакладчыцкай работай. Яна падрыхтавала ўжо да друку зборнік вершаў украінскага паэта Уладзіміра Барны "Мелодыя срэбнай ночы".

А на рабочым стале паэтэсы новыя вершы, новыя пераклады. Творчая работа не спыняецца. Здароўя, натхнення і поспехаў Вам, Ніна Язэпаўна! І са святам!

*НА ЗДЫМКУ: Ніна Мацяш.*

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ



### ІВАЦЭВІЧЫ

## УСЁ — ПА ЗАКОНУ?

Там, дзе збіраецца больш за два чалавекі, — у працоўных калектывах, аўтобусах, магазінах і г. д. — цяпер абмяркоўваюцца сталічныя навіны аб папярэджаннях, затрыманні членаў Цэнтральнай выбарчай камісіі (створанай апазіцыяй) па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Людзі цікавяцца тым, наколькі дзеянні і камісіі, і ўладаў адпавядаюць Закону, лёсам старшыні В. Ганчара, асуджанага на 10 сутак.

Між тым, у Івацэвічах ужо працуе раённая выбарчая камісія па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Яе члены (а гэта — 10 чалавек, абраных з ліку прадстаўнікоў раённай рады БНФ, Аб'яднанай грамадзянскай і аграрнай партый, незалежных прафсаюзаў, жаночага руху, іншых грамадскіх рухаў) лічаць, што яны дзейнічаюць у рамках Закона і абаронены ім ад папярэджанняў і затрыманняў...

### Ідзе гандаль бульбай

Пад канец зімы і ў пачатку вясны значна ажывіўся ў раёне гандаль бульбай — асноўным прадуктам, які на прысядзібных надзелах вырошчваюць нашы сугрaмадзяне.

Амаль у кожнай вёсцы з'яўляюцца "КамАЗы" з расійскімі нумарамі, якія пацвярджаюць тое, што "купцы" ў асноўным з паўднёвых расійскіх рэгіёнаў — Краснадарскі край, Растоўская вобласць, Рэспубліка Адыгея.

Кошт бульбы вагаецца ў межах 25—30 тысяч рублёў за кілаграм. Даволі актыўна вядзецца гандаль — бартэр: бульба мяняецца на цукар (280 кг бульбы на 50 кг цукру), на муку (120 кг бульбы на 50 кг мукі), на алей (12 кг на 1 літр), цыгарэты (2 кг бульбы за 1 пачку) і нават на ячмень.

### Чарговая ахвяра агню

Раніцай, 1 сакавіка, трывожны званок паклікаў івацэвіцкіх пажарных на дапамогу ў в. Быцень. Там гарэў драўляны дом пенсіянеркі Аляксандры Васільеўны Наліўка, 1904 г. нараджэння. Гэты невялічкі дом стаяў на ўскрайку вёскі, у некалькіх дзесятках метраў ад крайняй хаты вуліцы. Вяскоўцы выявілі пажар са спазненнем, калі полымя шугала ўжо па даху, а шыфер, які гарэў, з трэскам разлятаўся наўкол. Тут жа выклікалі пажарных з асобнага паста ВПС в. Быцень і з Івацэвічаў. Але гэта ўжо не выратавала ні само збудаванне, ні яго гаспадыню. Абгарэлае цела 94-гадовай бабулі знайшлі каля ляжака, што прымыкаў да печкі. Згарэла ўся маёмасць у доме, ды і сам дом аказаўся амаль цалкам знішчаным.

Прычына ўзнікнення пажару, які выклікаў трагедыю, устанаўліваецца. Вядома, што Аляксандра Васільеўна жыла адна, хоць у вёсцы маецца нямала сваякоў. Старая гаспадыня ўжо дрэнна бачыла і амаль нічога не чула. Хутчэй за ўсё у гібелі вінавата адзінота і хворая, нямоглая старасць.

**У сёлетнім годзе па-ранейшаму захоўваецца тэндэнцыя росту гібелі людзей у час пажараў. За два месяцы загінулі ў населеных пунктах Брэсцкай вобласці болей за 20 чалавек. Сумнае лідэрства належыць гораду Баранавічы і Баранавіцкаму раёну, дзе загінула адпаведна 5 і 3 чалавекі.**

### БЯРОЗА

### "Ніка" ў кватэры

Першы ў рэспубліцы і вобласці метадычны цэнтр па вывучэнні ў школе сусветнай мастацкай культуры створан у Бярозе. Яго назвалі "Нікай", месца размяшчэння — кватэра пенсіянеркі Валянціны Антонаўны Галоцінай. Былая настаўніца СШ № 1 сабрала ўнікальны матэрыял па гэтаму прадмету, яна — аўтар некалькіх метадычных дапаможнікаў.

Адкрыць на кватэры метадычны цэнтр Валянціне Антонаўне дапамаглі райвыканкам і яе былыя вучні, якія цяпер працуюць на розных пасадах ці займаюцца бізнесам.

### БАРАНАВІЧЫ

### Прэміі чыгуначнікам

Чыгуначнікі Беларусі добра памятаюць былога машыніста лакаматыўнага дэпо Мінск В. Яцкевіча. 12 студзеня 1967 года цаной уласнага жыцця ён папярэдзіў наезд на вагоны, якія адчапіліся ад грузавога састава.

Беларуская чыгунка і прэзідыум дарожнага прафсаюза ўстанавілі прэміі героя-машыніста і па выніках работы за год прысуджаюць іх калектывам і асобным працаўнікам сталёвай магістралі, якія дасягнулі лепшых вынікаў у справе бяспекі руху. Цяпер падведзены вынікі за мінулы год.

Першая прэмія ў суме адзін мільярд шэсцьсот мільёнаў рублёў і дыплом прысуджаны калектыву Баранавіцкага аддзялення Беларускай чыгункі. Дыплом і грашовую прэмію ў дваццаць мільёнаў рублёў атрымае калектыў савета грамадскіх інспектараў Баранавіцкай дыстанцыі пуці.

### Загарэўся ліфт

У дзевяціпавярховым доме па вуліцы Брэсцкай узнік пажар у ліфце: гарэла абшыўка кабіны. Дапамога пажарных не спатрэбілася — да іх прыезду агонь ліквідавалі жыхары дома. Пацярпелых няма. Прычына ўзгарання высвятляецца.

### ПРУЖАНЫ

### Называецца, падвёз

Прыватны таксіст з Пружанскага раёна згадзіўся падвезці трох малойцаў. Ля чыгуначнага пераезду ў вёсцы Тэўлі пасажыры замест таго, каб расплаціцца за паслугу, накінуліся на вадзіцеля і пачысцілі яго кішэні: забралі паўтара мільёны рублёў, дзевяць долараў. І ў дадатак сцягнулі з галавы футравую шапку.

Па гарачых слядах міліцыя, куды звярнуўся пацярпелы з заявай, затрымала рабаўнікоў. Яны аказаліся грамадзянамі братняй Украіны.

### Помощь от "вшивых блох"

Беспрецендентную акцию проводят некоторые предприниматели г. Пружаны. Они ввели особые скидки для пенсионеров и пожилых людей. Разница льготной цены и обычной составляет 20-40 тыс. руб. Если учесть, что в госмагазинах цены намного опережают предпринимательские, то становятся непонятными некоторые высказывания высших должностных лиц о предпринимателях как о кровопийцах, вшивых блохах, спекулянтах и т. д.

Кроме того, многие обыватели не знают или знать не хотят, что благодаря исправно выплачиваемым предпринимателями налогов кормятся чиновники всех рангов, поддерживается "чэсная" пресса, "киселевидение" и другие провластные СМИ.

### Антифашистскому центру — да!

МО "Гражданский форум" провел опрос жителей города. Ребята задавали лишь один вопрос: "Как вы относитесь к тому, что молодые демократы нашего города взялись за создание молодежного антифашистского центра?" За два часа было опрошено 200 человек. Результат был поразительный. За создание такого центра высказалось 187 человек. Нерешительными оказались 11 горожан. А вот два молодых человека (явно из РНЕ) ответили прекрасным русским матом. Интересно, что эти двое случайно попали в 200-ку, а если специально занятся подсчетом молодых фашистов, то сколько же их? Между тем "Гражданский форум" готовит обращение к жителям района с призывом активно препятствовать малейшим проявлениям фашизма.

## МИХАИЛ ЧИГИРЬ: "Я готов к любому развитию событий..."



Экс-премьер Михаил ЧИГИРЬ, первым из белорусских политиков объявил о своем намерении принять участие в новых президентских выборах, которые должны состояться 16 мая этого года.

**— Как вы относитесь к решению Центризбиркома о назначении выборов на 16 мая!**

— Только положительно.

**— И будете участвовать в этих выборах!**

—Да, да и да.

(Продолжение на 4-й стр.).



*Поздравляем прекрасных дам г. Пружаны и района с их праздником — 8 Марта. Наши наилучшие пожелания этой великолепной половине человечества. Удачи, счастья, любви!*

*Молодёжная организация "Гражданский форум" (г. Пружаны).*

### Шаноўныя чытачы!

Працягваецца падпіска на "Газету для вас" на другі квартал 1999 года. Аформіць яе можна ва ўсіх аддзяленнях сувязі Баранавіцкага, Івацэвіцкага, Бярозаўскага і Пружанскага раёнаў. Індэкс газеты 63834.

Кошт падпіскі: на адзін месяц — 32 тысячы рублёў, на квартал — 96 тысяч.

**Падборку "Навіны: час мясцовы" падрыхтавалі: С. Каждуб, А. Горбач (Івацэвічы), С. Русецкі (Бяроза), прэс-цэнтр МА "Грамадзянскі форум" (Пружаны), А. Лаўранюк (Баранавічы) і фотакарэспандэнт А. Ганчук.**

НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

## Ці выжывем?

***У студзені 1999 года назіралася зніжэнне рэальнага памера сярэдняй налічанай заработнай платы працоўных і служачых на Беларусі.***

У параўнанні са снежнем 1998 года яна знізілася з 33 да 32 долараў ЗША ў пераліку па рынкавым наяўным курсе.

Для параўнання: у студзені 1998 года сярэдняя налічаная зарплата працоўных і служачых была эквівалентная 75 доларам, ці ў 2,3 раза вышэй за цяперашні ўзровень.

## Выйсце ў прымусовым лячэнні?

***У Беларусі пагаршаецца сітуацыя з алкагалізмам і п'янствам.***

Медыкі сцвярджаюць, што тэрмінова неабходна адчыніць яшчэ два мужчынскія ЛПП (лячэбна-працоўныя прафілакторыі) і адзін жаночы.

Цяперашнія два ЛПП, разлічаныя разам толькі на дзве тысячы хворых на алкагалізм, ужо перапоўненыя. Толькі ў мінскім гарадскім дыспансеры на ўліку знаходзіцца больш за 32 тысячы алкаголікаў — гэта афіцыйна зарэгістраваныя хворыя, а сапраўдная колькасць значна большая. Спецыялісты сцвярджаюць, што гэтую лічбу патрэбна памножыць у пяць разоў, каб атрымаць поўную карціну. Медыкі вельмі занепакоеныя ростам колькасці псіхозаў на глебе алкагалізму.

Склалася крытычная сітуацыя з ростам колькасці наркаманаў і таксікаманаў, асабліва сярод непаўналетніх. З гэтай нагоды Савет міністраў збіраецца прыняць пастанову аб прымусовым лячэнні падлеткаў.

## Ганчара арыштавалі

***У Мінску супрацоўнікі міліцыі арыштавалі старшыню ЦВК Віктара Ганчара.***

Прыкладна а палове другой В. Ганчар прыпаркаваў аўтамабіль на вуліцы Кісялёва. У гэты момант да машыны падышлі тры міліцыянеры і папрасілі старшыню ЦВК выйсці. Віктар Ганчар паспрабаваў праехаць наперад, аднак дарогу перакрылі каля шасці міліцэйскіх машын. Стражы парадку выбілі шкло ў аўтамабілі, выцягнулі Ганчара наружу. Старшыню ЦВК пасадзілі ў чорную "Волгу" і звезлі ў Ленінскі райсуд. За парушэнне парадку правядзення сходаў В. Ганчар асуджаны на 10 сутак.

## "Газпрам" нагадвае пра даўгі

***Цяпер доўг за газ перавысіў 230 мільёнаў долараў ЗША. Прэзідэнт Лукашэнка просіць знізіць цэны на пастаўкі энергарэсурсаў да ўзроўню ўнутрырасійскіх.***

З сярэдзіны лютага пастаўкі газу на Беларусь паменшыліся амаль на 30 працэнтаў. Гэта будзе працягвацца, калі беларускі ўрад не знойдзе грошай і не падпіша адпаведнае пагадненне аб пастаўках. Расійскі бок не зацікаўлены зніжаць цэны на газ для Беларусі, бо ўсе падаткі з экспартнай выручкі "Газпрама" закладзены ў федэральны бюджэт Расіі. Акрамя таго, не завершаная рэструктурызацыя запазычанасці за леташнія пастаўкі газу ў нашу краіну.

## Заява з Вашынгтона

***Намеснік прэс-сакратара дзяржДэпартамента ЗША Джэймс Фоўлі зрабіў заяву ў сувязі з арыштам 25 лютага старшыні Цэнтрвыбаркама Віктара Ганчара і яшчэ 14 членаў выбарчай камісіі.***

Дзяржддэпартамент заклікаў беларускае кіраўніцтва пачаць разам з дэмакратычнай апазіцыяй пошук выйсця з працяглага канстытуцыйнага крызісу.Па словах Джэймса Фоўлі, "канстытуцыйныя разыходжанні — гэта прамы вынік незаконнага рэферэндуму 1996 года". Беларускі Канстытуцыйны суд прызнаў гэты рэферэндум неканстытуцыйным, а Злучаныя Штаты, Еўрапейскі саюз, АБСЕ і парламенцкая асамблея, а таксама большая частка міжнароднай супольнасці не прызналі яго вынікаў.

## Будзе індэксацыя

***На мінулым тыдні Савет міністраў Беларусі прыняў пастанову "Аб дадатковых захадах па абароне даходаў насельніцтва ад інфляцыі".***

Дакумент прадугледжвае, пачынаючы з 1 лютага, штомесячную індэксацыю той часткі даходаў насельніцтва, якая не перавышае 5 мільёнаў рублёў. Частка даходаў, якая перавышае 5 мільёнаў, індэксавацца не будзе.

Такім чынам, да заробкаў, стыпендый, сацыяльных пенсій, дапамог па беспрацоўі і інш. будзе дадавацца кампенсацыйная даплата. Памер даплаты за люты пакуль невядомы. Ён будзе вылічвацца на падставе лютаўскага індэксу спажывецкіх цэнаў, які вызначае Міністэрства статыстыкі і аналізу на падставе змянення за месяц цэнаў на харчовыя і нехарчовыя тавары, а таксама коштаў платных паслугаў (усяго 343 паказчыкі).

Аднак працоўныя пенсіі, у адрозненне ад сацыяльных, не падлягаюць гэтай індэксацыі. Тым не менш, у сакавіку працоўныя пенсіі падвысяцца недзе на 12-13 працэнтаў. *(БелаПАН).*

НЕ КО ПРАЗДНИКУ СКАЗАНО

## Дай, Боже, терпения

На одном из семинаров, посвященном проблемам СПИДа, познакомился и разговорился с журналисткой газеты "Вечерний Минск" Лидой Хворостковой. Разговор зашел о взаимоотношениях полов и продолжился обычными обоюдными претензиями: в адрес мужчин с её стороны, в адрес женщин — с моей. Взгляд Лиды на роль женщины показался мне необычным. Вот её небольшой спич на вышеуказанную тему.

— Но ведь женщине всю жизнь приходится терпеть. Разве не так? Не буду говорить о моральных страданиях, о которых сегодня и так много написано книг, спето песен. Но, послушайте, сколько женщине надо перенести физической боли. И это наказание при всём том, что мы считаемся слабым полом. Бог и тот сказал Еве и всем женщинам, что в муках будешь рождать детей своих. Вот и мучаемся. Кажется, что прогресс шагает вовсю по планете, однако женщина терпит сегодня физической боли не меньше, а больше. К примеру, моему мужу надо, чтобы я, его жена, всегда прекрасно выглядела. Всегда. Не сомневаюсь, что подобные претензии к своей половине имеешь и ты, и любой из вас. Но знаете ли вы, сколько для этого надо вытерпеть!

— Я даже думаю, — продолжала Лида, — что нашим мужчинам не помешало бы провести некоторую экзекуцию. Если бы любой из вас полежал ночь на бигудях, утром у него выщипали брови (а это ведь чудовищная боль), а вечером, извини меня, отправили на аборт, то вы запели бы другие песни в женский адрес.

Мужчины любят бездумно. Вот это и обидно. А за женской красотой, ухоженностью вы не видите таких терпений, лишений, каких вам, мужчинам, и во сне не снилось. А ведь всё, что ни делает любая женщина, она делает ради мужского внимания. Способны вы это оценить?

Этот короткий, но пламенный спич минской журналистки я тогда удачно перевел на шуточную тему. Однако запомнил и, надеясь что это интересно, рассказываю тебе, уважаемый читатель мужского пола. Итак, способны ли мы оценить терпение наших дорогих женщин?

*А. ГОРБАЧ.*

ШТО ХВАЛЮЕ

## Дзе ўзяць рабсілу?

Зусім нядаўна я пабываў у адным з калгасаў, які знаходзіцца непадалёку ад горада Косава.

— Хутка трэба пачынаць веснавыя палявыя работы, — з горыччу гаварыў старшыня гаспадаркі, — а ў мяне няма механізатараў. Каго я пасаджу на тыя амаль дабітыя трактары? Няма каго. Бягуць працаздольныя людзі з вёскі, уладкоўваюцца ў горадзе на любую работу, каб хоць трохі зарабіць на ўтрыманне сям'і...

Сапраўды, што ж рабіць такому кіраўніку калгаса без кадраў? Прычына іх адсутнасці адна: нізкая зарплата. Уявіце сабе: трактарыст у снежні адпрацаваў 27 дзён і зарабіў адзін мільён семсот тысяч рублёў. Гэта ў той гаспадарцы самая высокая зарплата, а астатнія калгаснікі атрымліваюць па 700—800 тысяч рублёў. Як пракарміць сям'ю на такія грошы? Вось і бягуць людзі з калгасаў.

Што гэта так, пацвердзіла і нядаўняя раённая нарада ў Івацэвічах.

Старшыня аднаго з калгасаў целяханскай зоны выступіў з прапановай раённым уладам прыняць пастанову аб забароне працаздольным вяскоўцам пакідаць калгасы і ўладкоўвацца на работу ў горадзе. Ці прымуць раённыя ўлады такое драконаўскае рашэнне, пакажа час. Але ўжо сёння зразумела, што нашы калгасы дажываюць свой век, што патрэбны нейкія кардынальныя меры па рэарганізацыі сельскай гаспадаркі, па выратаванні яе. Ужо не дапамагаюць штогадовыя мільярдныя ўліванні дзяржавы. Кіраўнікі гаспадарак спадзяюцца, што неяк дапаможа ім з'езд калгаснікаў, што пройдзе ў сакавіку ў Мінску. Чакаць засталося нядоўга. Пабачым. Але калі і з'езд пойдзе па шляху дыскрымінацыі вяскоўцаў, то дабра не будзе. Забарону на выезд з вёскі, уладкаванне на працу ў горадзе ніяк інакш як прыгонным правам не назавеш. Дарэчы, у былым СССР яно ў свой час існавала, аднак росквіту калгасам не прынесла.

*С. РЫГОРАЎ.*

ПАВОДКА



## Вада, вакол вада

Вясна ўжо паказала свой нораў. Плюсавая тэмпература і першы веснавы дождж дабавілі клопатаў і гараджанам, і вяскоўцам. Простая ісціна — вада імкнецца туды, дзе ёсць ухіл. А тым больш па прамёрзлай зямлі.

Бядуюць жыхары вуліцы Лугавой у Івацэвічах, а іменна дамоў №№ 6, 8, 10, 12, дзе затоплены агароды, склепы, хлявы.

Як жа так здарылася, што да веснавой паводкі зусім не падрыхтаваліся?

Так, па вуліцы Лугавой зроблена ліўневая каналізацыя. Яна прымае талую і дажджлівую ваду. Працуе, можна сказаць, спраўна толькі да паўднёвага канца паралельнай вуліцы імя Пестрака. Пры ўездзе на гэтую вуліцу ля дамоў № 1 і № 2 каналізацыйныя трубы завалены смеццем і зямлёй. Зрабілі гэта нядбайныя жыхары. Таму вадзе няма куды дзецца, і яна цячэ па канаве ў адваротным напрамку, на поўнач, уніз, на агароды вышэйназваных дамоў.

Здзіўляе ў гэтым плане абыякавасць, а можа дакладней злачынная безгаспадарчасць раённых камунальнікаў, якія летась да наступлення халадоў не праверылі спраўнасць ліўневай каналізацыі. Як вынік, загінула частка бульбы ў гараджан, нарыхтаваныя прадукты, жывёла стаіць у вадзе... Нанесена вялікая шкода пабудовам, садам, агародам.

Па волі будаўнікоў ПМК-18 аказаўся ў вадзе новы дом № 3/2 па вуліцы Механізатараў у Івацэвічах, у падвалах якога ўжо можна купацца. І іншыя дамы па гэтай вуліцы выглядаюць нібы астравы на люстраной гладзі вады.

Як вечны "помнік" будаўнікам былой ПМК-28 вось ужо 25 гадоў стаіць лужына ля пад'езда дома № 9 па вуліцы 60 год Кастрычніка ў Івацэвічах.

А колькі сёння гарадскіх і сельскіх жыхароў пакутуюць ад такога "гаспадарання" нашых камунальнікаў і будаўнікоў!

Сапраўды, ёсць над чым задумацца сёння раённым уладам. А ці задумаюцца?

*С. РЫГОРАЎ.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*



РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

## ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 3.03.99 г. (у тысячах руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 300—360 | 360—400 | 320—360 | 290—360 |
| Сала салёнае | 340 | 350 | 350 | 310—340 |
| Алей (1 л) | 280—370 | 240—380 | 270—390 | 280—350 |
| Яйкі | 80—90 | 90—120 | 80—100 | 90—110 |
| Малако (3 л) | 50 | 60 | 50 | 30—40 |
| Тварог | 60 | 70 | 60—80 | 50—60 |
| Масла сметанк. | 250 | 260 | 250 | 200—240 |
| Цыбуля рэпч. | 150 | 140—160 | 130 | 70—90 |
| Капуста | 20 | 30—40 | 30 | 10—20 |
| Бульба | 15 | 20 | 15 | 20 |
| Морква | 40 | 30—40 | 30 | 30 |
| Часнок | 200 | 370 | 400 | 200 |
| Яблыкі | 100—170 | 190—200 | 130—170 | 90—150 |
| Лімоны | 360—380 | 390 | 400 | 350—400 |
| Апельсіны | 300 | 280 | 300 | 250—300 |
| Бананы | 300 | 280 | 320 | 260—300 |
| Грэчка | 120 | 140 | 130 | 130 |
| Макар. вырабы | 110 | 90—100 | 110 | 110 |
| Рыс | 165 | 180 | 170 | 170 |
| Цукар | 130 | 140 | 130 | 130 |
| Мёд | 650 | 800 | 700 | 600 |

### ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ

**(у тысячах рублёў)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 310 | 330 | 310 | 330 | 310 | 330 | 300 | 330 |
| 1 дойчмарка | 160 | 170 | 160 | 170 | 170 | 190 | 165 | 190 |
| 1 рубель Расіі | 12 | 13 | 12 | 13 | 12 | 13 | 12 | 13 |

ЗДАРЭННІ

## Жыць не схацеў

У мінулы аўторак амаль уся вёска Сенькавічы і калектыў Косаўскага псіханеўралагічнага інтэрната для састарэлых, дзе працаваў нябожчык, праводзілі ў апошні шлях 29-гадовага хлопца, які не паспеў абзавесціся сям'ёй. Ён закінуў вяроўку за бэльку і павесіўся ва ўласным доме. Людзі шкадавалі, што маладая душа не вытрымала выпрабаванняў нашага нестабільнага часу.

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

# Ці будуць перабоі з хлебам?

*— Ці не заўважылі вы, што ў нашым горадзе людзі даволі ахвотна купляюць муку? Усё гэта падмацоўваецца чуткамі, што ў Івацэвічах чакаюцца некаторыя перабоі з хлебам. Даражэе ён, канешне, не толькі ў Івацэвічах, але хацелася б усё роўна пачуць на гэтае пытанне кампетэнтны адказ.*

*Надзя Г. (Івацэвічы).*

Каб адказаць на гэтае пытанне, мы звязаліся з Івацэвіцкім камбінатам кааператыўнай прамысловасці. Вось што на пытанне, пазначанае ў загалоўку, адказаў дырэктар **А. І. ХВАЙНІЦКІ:**

— Сітуацыя ў нас стабільная, і тыя чуткі, пра існаванне якіх сцвярджае ваша чытачка, не маюць пад сабой рэальнай глебы. Больш таго, па муцэ першага гатунку мы не выбіраем нават сваіх фондаў.



Такім чынам, на сённяшні дзень сітуацыя не горшая, чым у мінулым ці якім-небудзь іншым годзе. Таму нечаканасцей у нашай рабоце не прадбачыцца.

*XXX*



На жаль, факт няякаснай выпечкі хлеба ў раёне, падмацаваны ўжо не чуткамі, а канкрэтнымі дадзенымі, меў і працягвае мець месца. Не першы раз аб гэтым піша "Газета для вас". Днямі да нас завітала жанчына-пенсіянерка, якая прынесла акрайчык хлеба, куплены ў магазіне № 2 (гастраном) г. Івацэвічы, у якім знаходзіліся кавалак жалеза і нейкія ніткі (на здымку)! Толькі па шчаслівай выпадковасці пакупніца, па яе словах, не паламала свае не вельмі ўжо моцныя зубы.

Таварышы хлебапёкі! Мо наладзіце справу якасці хлеба так, каб не было пагрозы траўмаў людзей?

## СЕРДЕЧНО ПОЗДРАВЛЯЕМ



*Дарагая Светка ВАЛЮКЕВІЧ з г. Пружаны! Напярэдадні свайго дня народзінаў, калі табе споўніцца 14 гадоў, зычым табе самага найлепшага, што ёсць у гэтым жыцці. Каб ты заўсёды заставалася любай дачкой і сястрой, а таксама вернай патрыёткай Беларусі.*
*Мы разам пойдзем па вясне,*
*І нам ніхто ня скажа не,*
*Бо ўсе сябры,бо ўсе — свае.*

*Бацькі, брат, сябры і Лявон Вольскі.*

*Уважаемую Евгению Григорьевну ЛЕВЧУК из д. Приборово от всей души поздравляем с 55-летием.*
*Желаем крепкого здоровья,*
*Успешных, светлых*
*и счастливых дней.*
*И чтобы в радостном,*
*прекрасном настроеньи*
*Отметить и столетний*
*юбилей.*

*Коллектив Бытенского отделения связи.*

ГОЛАС НАРОДА

# Аб якой жанчыне вы марыце?



**Анатоль Дзмітрыевіч:** Жанчына павінна быць прыгожай, прывабнай. Канешне, у сённяшнім жыцці цяжка ім паспяваць за ўсім. Яшчэ здзіўляешся таму, як яны наогул усюды паспяваюць. Але шмат гавораць сёння і аб не самых лепшых жаночых якасцях. Што параіць канкрэтна жанчынам? Абавязкова захоўвайце сямейную вернасць. Залішняя раскаванасць да дабра яшчэ нікога не давяла.



**Дзіма:** Маладыя дзяўчаты сёння без "тармазоў". Было б лепш, каб яны вялі сябе больш сціпла. Можа дзяўчаты думаюць, што, калі яны трымаюцца спакойна, іх ніхто не прыкмеціць? Калі так, то гэта, на мой погляд, памылкова. Любы хлопец узважыць усе "за" і "супраць" пры сур'ёзным сяброўстве з дзяўчынай. А калі яна на танцы прыходзіць п'яная (сёння на дыскатэках вельмі шмат нецвярозых дзяўчат), мацюкаецца, курыць як паравоз, то шанцаў на добрае знаёмства ў яе — нуль. Я мару аб сціплай і прыгожай дзяўчыне.



**Толя:** Мая мара збылася: жонка ў мяне цудоўная. Калі сказаць увогуле пра жанчын, то, на мой погляд, сённяшняя жанчына літаральна "запрэжана". Асабліва ў вёсцы. Колькі ёй прыходзіцца працаваць! Гарадскія працуюць менш, хіба языкамі больш. Прытым вельмі ўжо шмат дрэнных "захапленняў" заўважаецца ў гарадах — курэнне, п'янства, наркаманія. Хто-небудзь увогуле думае пра тое, да чаго давядзе гэтая жаночая "свабода"?..

*А. ГОРБАЧ, А. ГАНЧУК (фота).*

# МИХАИЛ ЧИГИРЬ: "Я готов к любому развитию событий..."



(Начало на 1-й стр.)

**— Некоторые начинают предвыборную гонку ради саморекламы, действуя по принципу "не добежим — так согреемся". Как вы расцениваете свои шансы на победу?**

— Если бы не оценивал свои шансы высоко, не ввязывался бы в эту драку. Я работаю в солидной европейской компании, получаю хорошую европейскую зарплату... То есть, в личном плане устроен вполне нормально. Но в той же Германии или России, где я сейчас работаю, мне как гражданину Беларуси порой становится даже стыдно. Когда говорю там, что белорус, вижу одну и ту же реакцию: мои собеседники не понимают, почему в центре Европы образовалась такая "черная дыра". И надо что-то делать, чтобы изменить ситуацию.

**— Официальные власти как-то отреагировали на ваше заявление о желании стать президентом?**

— Нет. Ну что вы! По мне, как когда-то в Лиозно, никто не стрелял, все тихо и спокойно.

**— Сегодня в распоряжении президента Лукашенко находятся серьезные финансовые ресурсы и вышколенный государственный пропагандистский аппарат. У вас ничего подобного нет. Поэтому ситуация с президентскими выборами весьма напоминает казахстанский вариант. Может так случиться, что вы невольно способствуете президенту в его стремлении легко выиграть выборы и стать легитимным главой государства на очередные пять лет?**

— Нынешняя ситуация в стране — это повторение 1994 года. Тогда находившийся у власти Вячеслав Кебич тоже имел ресурсы, мощный государственный аппарат и, тем не менее, проиграл с большим шумом и треском. Проиграл потому, что экономическое положение сделало поражение неизбежным; потому что народ захотел изменить свою жизнь. Сейчас сложилась аналогичная ситуация. Поэтому ресурсы — и финансовые, и пропагандистские — опять становятся во многом вторичными.

**— Рейтинг президента никогда не опускался ниже 30%, в то время как ваш находится в области статистической ошибки. Весь электорат оппозиции по самым оптимистическим оценкам составляет не более 20%.**

**Каким образом вы намерены добиться доверия не определившейся части избирателей, а это почти половина всех, имеющих право голоса?**

— У Лукашенко было 60% сторонников, сегодня — 30%. После посевной их будет 15%. Я же только недавно заявил о своем желании баллотироваться в президенты, о чем, наверное, 60% избирателей вообще не знают. Популярность Лукашенко сохраняется лишь потому, что люди пока не видят альтернативного варианта, так как электронные СМИ полностью монополизированы. Сейчас президент стоит перед необходимостью нового резкого повышения цен. Если это произойдет, то вызовет волну недовольства, — народ к этому не готов. С другой стороны, если цены не поднять, — полностью провалится производство. Одним словом, Лукашенко попал в такой тупик, в такой капкан, что не знает, как из него найти выход. Я уверен, что ситуация с его и моим рейтингом будет меняться.

В свою очередь, самый главный козырь, о котором я намерен говорить постоянно — то, что когда я находился во главе правительства, то смог обеспечить среднюю заработную плату в 100 долларов в месяц. А после моего ухода из-за непродуманных действий президента и правительства зарплата уменьшилась на 20-30 долларов. Этот аргумент понятен любому и каждому.

**— Экономическое положение почти в каждой белорусской семье действительно ухудшилось. Однако вовсе не факт, что стихийное недовольство масс будет направлено именно на Лукашенко. Ему ведь неоднократно удавалось переводить такое недовольство на других политических субъектов.**

— Считаю, что все его лимиты запасных врагов — банкиров, оппозиционеров и т. п. — уже исчерпаны. Найти еще кого-то на данном этапе очень сложно, поэтому как вариант отвода удара от себя Лукашенко и предложил так называемое объединение с Россией. По-моему, этот шаг не принес ему успеха, а наоборот, понизил его рейтинг. Чем может нам помочь сейчас Россия, если размер ее бюджета меньше бюджета Финляндии или Чехии?

Следует помнить и о том, что самая главная оппозиция сейчас находится в аппарате Лукашенко. Это те люди, которые расставлены вокруг него и которые вместе с ним довели народ до такой жизни. Ведь спросите сегодня любого милиционера, за кого он будет голосовать, если дойдет до урны. Да ни один не проголосует за Лукашенко, потому что сегодня семью не в состоянии содержать. То же самое и в армии, и в правоохранительных органах. В таможенном комитете три года назад получали по 250 долларов, а сейчас по 50.

**— Михаил Николаевич, у вас отсутствует опыт публичной политики. Как мне представляется, вы —классический аппаратный руководитель. Александр же Лукашенко — как к нему ни относись — образец яркого публичного политика, умелого полемиста. Вы не боитесь выйти вместе с ним в прямой эфир и в открытой дискуссии доказать, что его политика плохая, а ваша будет лучше!**

(Окончание на 5-й стр.).

